 

Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 22 (1724) ГОД XXXIV БЕЛАСТОК 28 МАЯ 1989 г. ЦАНА 40 зл.

# ВЫБАРЫ І НАШ ВЫБАР

**На мінулым тыдні наша газета рэкамендавала сваім чытачам Сакрата Яновіча як кандыдата ў сенатары ў выбарах, якія адбудуцца 4 чэрвеня. Сёння прадстаўляем і рэкамендуем двух наступных кандыдатаў: беларускага гісторыка і публіцыста Яўгена Мі946?**



## ШТО АД НАС ЗАЛЕЖЫЦЬ?

**ЯЎГЕН МІРАНОВІЧ, КАНДЫДАТ У ПАСЛЫ Ў СЕЙМ ПНР, АДКАЗВАЕ НА ПЫТАННІ ЖУРНАЛІСТА „НІВЫ“.**

**Ян Максімюк:** Яўген, кажуць, што нібыта ўпершыню за ўвесь пасляваенны час будзем мець у Польшчы дэмакратычныя выбары? Што ты пра гэта думаеш?

**Яўген Мірановіч:** Не ведаю, хто табе такое казаў, я ўжо некалькі разоў нават у тэлебачанні чуў, што зусім дэмакратычна будзем выбіраць 35 працэнтаў Сейма і цэлы Сенат. Прытым варта памятаць, што гэты працэнт дэмакратычна выбраных паслоў і сенатараў аўтаматычна не вызначае такога ж самага працэнта дэмакратыі ў Польшчы. Выбары гэта вынік кампрамісу паміж бокам урадава-партыйным і апазіцыяй, якую наогул атаясамліваюць з „Салідарнасцю“. Практычна, замест палітычнага плюралізму

(Працяг на стар. 3)




*„Ці зазеляпеюць зноў нашы моўныя палеткі?“*
*Уладзімір Малашкевіч*

* ✻ *

А на моўных палетках — разор і знішчэнне,
А на моўных палетках — засушлівы жар.
Безнадзейна марнее ў пачатку цвіцення
Моўнай руні нядаўні зялёны абшар.

Не расцвіў — ды згарэў моўны колас народа.
Не чакайце вясёлага жніўня, сябры!
Чорны попел, смурод ды куродым
Разнясуць па зямлі мітуслівa вятры.

Мове нашай спачыць назаўжды давядзецца
У запыленых сховішчах страчаных кніг.
Нашы праўнукі скажуць: — Навошта нам смецце? —
І з агідай піхнуць стосы кніжак старых.

І не ўстаць з-пад зямлі, не завыць, не ўсхапіцца,
Не паклікаць ратунку з вільготных магіл.
Так! Знікае вадзіца ў бацькоўскіх крыніцах.
Моўны пыл. Мяккі пыл. Мёртвы пыл...
ці пылок?

Юры Кісялеўскі

## АБ НАЦЫЯНАЛЬНЫХ МЕНШАСЦЯХ У ЦЭНТРАЛЬНЫМ КАМІТЭЦЕ ПАРП

Закончыў свае паседжэнні „круглы стол“, з-за якога гаварылася пра надзею, дэмакратыю, пра шанцы на светлую будучыню. Мы, беларусы, разам з усімі нацыянальнымі меншасцямі ўглядаліся ў сярэбраныя экраны тэлевізараў, у вусны аратараў, услухоўваліся ў прамовы, каб пачуць, што не забылі пра нас, пра нашы праблемы, вырашэнне якіх здзейсніла б нашу надзею на лепшы лёс як у духоўным, так і ў эканамічным аспекце. І не дачакаліся.

Таму з надзеяй прынялі мы запрашэнне сакратара ЦК партыі Лешка Мілера на сустрэчу прадстаўнікоў нацыянальных меншасцяў. Гэта была апошняя магчымасць увесці ў краёвы спісак кандыдата беларускай меншасці. Усе прадстаўнікі нацыянальных меншасцяў былі перакананы, што якраз выбарчая справа будзе галоўным прадметам дыскусіі.

Аказалася, што сакратар не мог сустрэцца з намі з увагі на важныя прычыны і таму сустрэчу вёў Славамір Вятр, кіраўнік Аддзела маладзёжных арганізацый і таварыстваў ЦК ПАРП. Прысутныя са здзіўленнем сцвердзілі, што С. Вятр у доўгім уступным слове нават не закрануў справы выбараў.

Голас папрасіў старшыня ГП БГКТ А. Баршчэўскі, сцвярджаючы, што вырашэння прадстаўленых С. Вятрам праблем нацыянальныя меншасці чакалі 33 гады і маглі б яшчэ пачакаць некалькі месяцаў, а нават год. Галоўнай і актуальнай праблемай на сёння з'яўляецца справа выбараў. Яго словы: „Я павінен адчуваць сябе ў гэтым доме добра, таму што з'яўляюся членам партыі ад 1948 года. Аднак адчуваю тут сябе дрэнна, з увагі на нелагічную палітыку ўлад у адносінах да нацыянальных меншасцяў“, — сведчылі аб гарачым клімаце сустрэчы.

А. Баршчэўскі ў сваім выступленні напомніў словы генерала Войцеха Ярузельскага, які 25 красавіка 1982 года ў Сейме гаварыў аб вялікім культурным і матэрыяльным укладзе нацыянальных меншасцяў у пабудову і развіццё Народнай Польшчы і сцвердзіў, што прадстаўнікі нацыянальных меншасцяў маюць права браць удзел ва ўсіх дзяржаўных структурах.

Старшыня ГП напомніў таксама, што ў 1985 годзе БГКТ накіравала на рукі І сакратара ЦК ПАРП Войцеха Ярузельскага пісьмо-петыцыю, у якім гаварылася аб патрэбе ўвядзення ў Сейм прадстаўнікоў беларускай нацыянальнай меншасці. ГП БГКТ не атрымала ніякага адказу на пісьмо. Яго копію ГП трымала ў сейфе, каб не трапіла яно ў рукі заходніх сродкаў інфармацыі. А. Баршчэўскі выказаў думку, што адчакаўшы тры месяцы, пісьмо гэта трэба было апублікаваць.

Далей А. Баршчэўскі прадставіў крытычныя адносіны

(Працяг на стар. 2)

 

## VIII ФЕСТЫВАЛЬ ЗАКАНЧВАЕЦЦА

Пад купалам гайнаўскага Храма Св. Тройцы заканчваецца 4-дзённы VIII фестываль царкоўнай музыкі — вялікае, узнёслае, Неба з Зямлёй спалучаючае свята царкоўнага праваслаўнага спеву. Пачалося ў чацвер. У 16 гадзін у саборы Св. Тройцы фестываль адкрыў сваім канцэртам камерны мужчынскі хор з Масквы пад кіраўніцтвам Анатолія Грындзенкі, які называецца „Древнерусский распев", а які многія з нас помняць з мінулагодняга фестывалю ў Гайнаўцы, а таксама з тэлевізійных перадач аб святкаванні 1000 год хрысціянства ў Расіі. Канцэрт „Древнерусского распева" — перажыванне, якое цяжка перадаць у словах.

Пятніца і субота былі конкурснымі днямі. Праграму мы апублікавалі ў папярэднім нумары. Пакуль коратка хачу звярнуць увагу на паяўленне і ўдзел новага нашага, дакладней, гайнаўскага хору: гэта хор духоўных, які арганізаваўся пры гайнаўскім саборы некалькі месяцаў таму і які працуе пад кіраўніцтвам нястомнага прапагандыста і місіянера праваслаўнага спеву на Беласточчыне — айца Міхала Негярэвіча. Парадаваў удзел і двух царкоўных хораў з Беластока, якім кіруе вядомы нам яшчэ з калектыву „Звон" Багдан Пура.

Хачу чытачу ўсведаміць яшчэ адну вельмі важную рэч. Яна датычыць абавязковага твора, які кожны выступаючы хор павінен спяваць. У гэтым годзе абавязковым творам быў „Достойно есть" — супрасльскі распеў з XVI ст. Ужо трэці год гэтак арганізатары гайнаўскага фестывалю (Гайнаўскі дом культуры і Аддзел культуры і мастацтва Ваяводскай управы) як абавязковыя творы ўстаўляюць у праграму і рассылаюць хорам для выканання нашы беларускія — супрасльскія, палескія, падляшскія творы. „Хочам паказаць і даказаць, — гаворыць дырэктар М. Бушко, — што нашы продкі на гэтых землях даўно стваралі і спявалі багатую царкоўную музыку".

Па-новаму журы ў гэтым годзе ацэньвала хоры. Было 3 катэгорыі: 1) прафесіянальныя, 2) царкоўныя і 3) свецкія аматарскія — студэнцкія, маладзёжныя і інш. Цікавасцю сёлетняга фестывалю быў і той факт, што пераважалі царкоўныя хоры. І аж два з іх — з Гайнаўкі!

Журы VIII фестывалю: Рамуальд Твардоўскі, Станіслаў Крукоўскі, Марчэла Эрыгіна, Андрэй Дырдал, Анатолій Грындзенка і Віктар Роўда. Новымі ў журы фестывалю былі Анатолій Грындзенка і Віктар Роўда — прафесар Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі, кіраўнік хору Беларускага радыё і тэлебачання.

Буду старацца дабіцца сустрэчы з гэтымі маэстра і шырэй расказаць аб гэтым. Сёння толькі канстатуем, што мы сардэчна рады пашырэнню духоўных і культурных сувязяў з Расіяй і з Беларуссю асабліва.

**Вера Валкавыцкая**

## Своіскія малюнкі



*Беласток, вул. Чыстая. Малюнак У. Петрука.*

# Скарынінская канферэнцыя

21-22 красавіка 1989 года ў Гародні адбылася навукова-тэарэтычная канферэнцыя „Францішак Скарына і лёс беларускай культуры", прысвечаная 500-годдзю беларускага асветніка і першадрукара.

Пасяджэнні праводзіліся ў будынку былога базіліянскага кляштара, у якім зараз месціцца Рэспубліканскі музей гісторыі рэлігіі і атэізму. Канферэнцыя праводзілася з ініцыятывы адміністрацыі гэтага музея, абласнога аддзялення Беларускага фонду культуры ў Гародні, Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Янкі Купалы і абласнога таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры.

На працягу двух дзён былі прачытаныя вельмі цікавыя даклады па самых розных пытаннях біяграфіі і дзейнасці Францішка Скарыны, па-новаму асэнсаваныя ўжо вядомыя і нанова адкрытыя факты і падзеі з яго жыцця.

Вядомы беларускі даследчык і літаратуразнавец доктар філалагічных навук Адам Мальдзіс правёў цікавы аналіз пытання аб веравызнанні Францішка Скарыны і яго бацькоў. П. А. Лойка, кандыдат філалагічных навук з Мінска, гаварыў аб часе войнаў паміж Вялікім княствам Літоўскім і Вялікім княствам Маскоўскім у XV-XVI стагоддзях. Аб працэсах аб'яднання цэркваў у унію гаварыў доктар гістарычных навук А. П. Грыцкевіч. У часы Францішка Скарыны ў Вільні большасць храмаў былі праваслаўнымі, гэтаксама і ў Навагарадку: на 10 цэркваў прыходзіўся адзін касцёл. У сваёй дзейнасці Францішак Скарына не аддаваў перавагі ні праваслаўю, ні каталіцызму, відаць мудра прадбачачы згубнасць для беларускага народа такога падзелу. Ф. Скарына ўдала скарыстаў тагачасную беларускую мову пры надрукаванні сваіх кніг, даўшы такім чынам пачатак развіццю беларускай літаратуры.

Адначасова ў выставачнай зале Музея гісторыі рэлігіі і атэізму праходзіў паказ твораў маладога гродзенскага мастака Уладзіміра Кіслага: карцін, макетаў, керамічных знакаў і медалёў, зробленых з вялікім густам. Яны прысвечаны важным падзеям нашага беларускага гістарычнага шляху. Прыцягваюць увагу керамічны астральны знак Ф. Скарыны „Месяц і Сонца", „Стары Гродзенскі замак князя Вітаўта XIV-XV ст.", „Каложская (Барысаглебская) царква XII ст." і іншыя. Да дня канферэнцыі мастак стварыў таксама цікавы памятны знак, які мелі магчымасць набыць усе прысутныя.

Карціны мастака У. Кіслага ўражваюць своеасаблівай колерасцю, глыбокім зместам, разуменнем багатай гісторыі беларускага народа, выклікаюць у гледача адчуванне глыбокай сувязі мінулага і сучаснага з усёй трагічнасцю і неміласэрнасцю лёсу да нашай шматпакутнай беларускай зямлі. Асабліва бачацца такія карціны, як гістарычны партрэт князя Давыда Гарадзенскага, карціна пад назвай „Імша закончана..." і „Крэўскі замак".

Паглыбіла эмацыянальнае ўспрыманне мастацкіх твораў музычная праграма ў цудоўным выкананні гродзенскай скрыпачкі Таццяны Сучоцкай і піяністкі Святланы Яновіч. Добра прагучала таксама харавое спяванне па творах маладога гродзенскага кампазітара Бандарэнкі.

Удзельнікі канферэнцыі агледзелі таксама помнікі старажытнасці ў Гародні: Каложскую царкву і Францішканскі (фарны) касцёл.

Праведзеная канферэнцыя ў Гародні дапамагла яшчэ больш наблізіцца да ўсведамлення той вялікай ролі, якую адыграў наш вялікі беларускі асветнік, першадрукар і доктар медыцыны Францішак Скарына ў лёсе беларускай і сусветнай культуры. Матэрыялы канферэнцыі плануецца выдаць асобным зборнікам у Гараднянскім універсітэце.

**Міхал Адамік**




# ПРАБІЎ

Мая вёска невялікая — 24 гаспадаркі, знаходзіцца на Беласточчыне. Моладзь ад школьнага ўзросту выпархнула ў горад. Засталося адно дзяўчо, якое не хацела вучыцца, і адзін хлопец, які застаўся гаспадарыць на бацькаўшчыне. Назавем іх Брыгіда і Данель.

Пачаў Данель да Брыгіды залёты строіць, каб ажаніцца — бо гаспадарка вялікая, працаваць няма каму, а бацькі на пенсіі ды хворыя. Небарака нават падаваў да „міртавай галінкі" ў „Грамадзе-Рольнік польскі" і адтуль ані віду, ані слыху. А Брыгіда да яго дзярэ козыру, проста як толькі пакажацца на панадворку, то ціграю скача мала не да вачэй. Пачаў, бядняга, часцей прыставаць да дзяўчыны, але яна за кожным разам верашчала, як тая кошка. І так Данель наведваў тую Брыгіду 2 гады і страшыў яе, што як не пойдзе яна за яго, то сабе або ёй зробіць смерць. А Брыгіда яго пагрозы не брала ў галаву, толькі з яго смяялася.

Я там замнога пра іхнія справы не ведаю, бо жыву на аселіцы, ды калі куды трэба пайсці ці паехаць, то тады сёе-тое даведаюся, што чуваць у вёсцы, так што шмат чаго не магу пісаць...

Выбраўся я ў краму, жонка мне палажыла ў торбу 10 бутэлек па гарэлцы, каб разам прадаў. Іду цераз вёску, ды натыкаў Ігнася. Прывітаўся і пытаю, што чуваць у вёсцы. А Ігнась кажа: „Што, ты не ведаеш? То ж Данель Брыгіду прабіў!" На мне ўсё задрыжала. Такога ў нас ніколі не бывала! З гэтага ўсяго ўпусціў я торбу з рук, усе бутэлькі пабіліся, я заламаў рукі і крычу: „Ах, Божа мой, Божа, а што ж гэты Данель нарабіў? Дзеўку згадзіў, што не хацела за яго ісці замуж, цяпер сам пойдзе сядзець, і што з гаспадаркаю будзе? А чым ён яе прабіў?" А Ігнась кажа: „Ужо Брыгіда ў палавіне". Я ачуняў і падумаў: „То ж і праўду гаворыць, калі шкло б'ецца, то будзе добра"!

Не пайшоў я ў краму, а хутчэй вярнуўся дадому, расказаць жонцы.

Дай Божа, каб толькі хутчэй дайшлі да ладу, пажаніліся ды мяне на вяселле запрасілі! Каб толькі добра жылі, у згодзе, шчасці і дабрабыце, ды не патрабавалі пісаць „Сэрцайку". Гэтага ім з цэлага сэрца жадае

**Сусед**

# ЯН ПІЎНІК ПРА СВОЙ СВЕТАПОГЛЯД І ВЫБАРЧУЮ ПРАГРАМУ

(Працяг са стар. 3)

За гэтым могуць пайсці і болей шырокія гаспадарчыя кантакты.

Усё гэта справа будучыні, але да яе мы павінны рыхтавацца і перш за ўсё ўмацоўваць сваю нацыянальную самабытнасць і праваслаўную духоўную тоеснасць, а таксама змагацца за пашырэнне дэмакратыі і талерантнасці ў Польшчы, каб сапраўды вярнуцца да гістарычных традыцый Рэчыпаспалітай роўных народаў і рэлігій. Дзеля гэтага нам трэба клапаціцца пра стварэнне ўмоў для належнага развіцця праваслаўнай Царквы, для годнага забеспячэння памкненняў і патрабаванняў нацыянальных меншасцяў у Польшчы. Трэба стварыць праваслаўную моцную матэрыяльную базу, адбудоўваць старыя і будаваць новыя праваслаўныя храмы, падтрымліваць і пашыраць сувязі з праваслаўнымі на Усходзе і Захадзе. На маю думку, трэба стварыць на Беласточчыне цэнтр праваслаўнай культуры ў Польшчы.

Без добра развітай гаспадаркі на Беласточчыне дасягнуць гэтых мэт будзе нам даволі цяжка. Таму нам трэба дабіцца таго, каб не было гаспадарчай дыскрымінацыі нашага рэгёна. Справядліва павінны размяркоўвацца сродкі для развіцця сельскай гаспадаркі і жыллёвага будаўніцтва на Беласточчыне. Заняпад беларускай вёскі ўздоўж так званай „усходняй сцяны" быў вынікам вышэй згаданай дыскрымінацыі Беласточчыны. Гэтую праблему беларусы могуць рашыць сваімі ўласнымі сіламі, калі толькі кіруючыя органы дзяржавы патрактуюць Беласточчыну прынамсі як раўнапраўны рэгіён Польшчы. А было б з карысцю для ўсіх, калі б звярнулі на Беласточчыну асаблівую ўвагу, бо яна ўнікальная ў маштабе цэлай краіны не толькі сваёй рэлігійна-нацыянальнай адметнасцю, але і параўнальна малой ступенню забруджання натуральнага асяроддзя. Таму я лічу, што не менш важнай праблемай за ўсе закранутыя вышэй ёсць і тое, каб далей захаваць чыстую ваду і чыстае паветра для ўсіх, хто жыве на Беласточчыне.

Запісаў Ян Максімюк

* * *

*Ян Піўнік нарадзіўся ў 1943 годзе ў вёсцы Янушы каля Камянца Літоўскага (цяпер у Брэсцкай вобласці, БССР). Яго бацька быў бандаром, маці выводзілася з сялянскай сям'і з Палічнай. Да 1962 года жыў у вёсцы Вулька-Тэрахоўская каля Чаромхі. Закончыў Механічны тэхнікум у Сувалках, затым Варшаўскую палітэхніку. У 1979 годзе абараніў доктарскую дысертацыю ў Інстытуце асноўных праблемаў тэхнікі Польскай Акадэміі Навук у Варшаве, а ў 1986 годзе, там жа, атрымаў габілітацыю. Цяпер жыве ў Беластоку і працуе ў Беластоцкай палітэхніцы: на механічным факультэце кіруе Аддзяленнем асноў машынаканструявання і адначасова з'яўляецца намеснікам дэкана па справах навукі і супрацоўніцтва з народнай гаспадаркай. Мае вартасныя навуковыя дасягненні ў галіне тэхнічнай механікі, неаднаразова атрымліваў узнагароды рэктара Варшаўскага універсітэта і міністра навукі, вышэйшых школ і тэхнікі.*

*Сваю свядомасць праваслаўнага беларуса Ян Піўнік сфармаваў у студэнцкія часы, калі сутыкнуўся з рухам праваслаўнай моладзі. У пачатку васьмідзесятых гадоў актыўна ўключаецца ў плынь духоўнага адраджэння праваслаўнай моладзі на Беласточчыне, з'яўляецца адным з заснавальнікаў Праваслаўнага брацтва. Член Парафіяльнай рады пры Саборы св. Мікалая ў Беластоку.*

*У сваёй грамадска-палітычнай дзейнасці хоча змагацца за годнасць і справядлівасць ды простае людское шчасце жыхароў Беластоцкага краю.*

Помнікі культуры

# ЦАРКВА Ў БЕЛАВЕЖЫ

Уніяцкі прыход у Белавежы заснаваны ў 1800 або ў пачатках 1801 г. Сама царква была пабудавана некалькі гадоў раней. У 1839 г. белавежскія уніяты перайшлі на праваслаўе — веравызнанне іхніх продкаў. У 1853 г. намаганнямі прыхаджан была пабудавана новая, драўляная царква, якая вельмі хутка састарылася, перахілілася ўбок так, што трэба было яе падпіраць жэрдкамі. Наведваючы ў 1885 г. белавежскі храм вялікі князь Міхал Мікалаевіч паабяцаў давесці, пасля вяртання ў Пецярбург, да збудавання новай царквы.

Пасля трох гадоў цар Аляксандр III пераняў Белавежскую пушчу ў сваё прыватнае ўладанне. Адным з першых загадаў новага ўладальніка было збудаваць новую, мураваную царкву. Праект апрацаваў архітэктар Піменаў з Вільні. Новую царкву св. Мікалая Чудатворца пасвяціў 22 студзеня 1895 г. епіскап літоўскі і віленскі Іеранім. Працы пры пабудове закончыліся ў 1897 г., да прыезда ў Белавежу цара Мікалая II. Прыхаджане заснавалі два хоры — адзін складалі вучні, другі ўраднікі. У жніўні 1915 г. прыход апустошэў — людзі падаліся ў бежанства. Быў таксама вывезены звон.

Пасля вяртання жыхароў з розных куткоў Расіі, рэлігійнае жыццё наступова адраджаецца. 1 верасня 1939 г. царкву крыху пашкодзіла нямецкая бомба. Дзякуючы станоўчасці новага настаяцеля прыхода, а. Клаўдзія Пушкарскага (праслужыў ён у Белавежы 40 гадоў, ад 1939 да 1979 г.), пашкоджанні хутка ўстараніліся. У першыя пасляваенныя гады ў царкве былі намаляваны новыя іконы — унутры купала і ў яго падставы. Добраўпарадкаваны быў царкоўны пляц, аднаўлены храм. Шмат працы ўклаў у рамонт і аднаўленне прыхадскога храма і іншых будынкаў наследнік (ад 1979 г.) а. Пушкарскага — а. Сяргей Корх. Ён і зараз вядзе гэтыя працы.

Белавежскі прыход налічвае сёння 2 тыс. прыхаджан. Прыхадскія святы — Мікалая (22 мая) і Пакровы (14 кастрычніка). На прыхадскім могільніку знаходзіцца старая капліца св. Кірылы і Мяфодзія.

Пётр Байко

Фота Войцеха Рыпажэўскага



# ХРОНІКА

15 красавіка 1989 г. у Гмінным асяродку культуры ў Дубінах выступіў драматычны гурток з Паўлаў. Акцёры-самадзейнікі паказалі два спектаклі. Першы — „Было гэта ў 1941 г." — гэта драматычны абразок паводле аповесці В. Быкава „Кар'ер", якую на сцэну адаптаваў Ян Мордань. Другі спектакль гэта камедыя Сакрата Яновіча „Сто хвароб на аднаго чалавека".

*

3—4 мая 1989 г. пабывалі на Беласточчыне супрацоўнікі Мінскага тэлебачання. Журналіст Анатоль Майсеня збіраў матэрыялы аб жыцці беларусаў у ПНР для перадачы „Мерыдыян". Госці наведалі Беласток, Бельск-Падляшскі, Орлю, Пашкоўшчыну і Гайнаўку.

В. Стахвюк

# У КРАІНЕ НЁМАНА

У дарозе да Ліды разглядаў я свае здабыткі. Трапіў у рукі агітатарскі вершык:

Хотите, чтоб у нас была
Нормальная свобода слова,
И чтобы гласность
расцвела —
Проголосуйте за Ткачёва.

Гэта пра таго ж Міхася Ткачова, які стаў кандыдатам у саюзны парламент. У паўторныя выбары. „Правда и только правда нужна" — загаловак інтэрв'ю Ткачова гродзенскай прафесійнай газеце „Высота" ад 14 красавіка. Праз тыдзень упаткаю пікет „паходнеўцаў" з падобнымі лозунгамі. Нягледзячы на іх беларускамоўе, сабраўся вакол досыць густы натоўп зацікаўленых постаццю прэтэндэнта ў дэпутаты. Псаваць усю музыку з'явіўся пажылы бамбіза ў шыкоўным адзенні, але на дзіва лёгка пугнула яго адсюль пастарэлая жыццём кабета: „Вы, барин, когда-нибудь в своей жизни стояли в очереди?"

Перадаю запрашэнні, адрасаваныя камсамольскім камітэтам у Гродне і ў Лідзе, ад нашых студэнтаў у Ольштыне, якія арганізоўваюць папулярызатарскую канферэнцыю, прысвечаную беларускай культуры.

У Лідзе — усім камплектам польска-беларускім на сустрэчы з вучаніцамі і вучнямі педагагічнага вучылішча. Знакаміта выступае Леанчук! Гэта рэдкасць, калі аўтар добра піша і добра чытае сваё. Шведа любяць за яго вершы для дзяцей, але ён чамусьці як бы недаацэньвае сваёй унікальнай здольнасці і беспатрэбна аддаляецца, так сказаць, у дарослась. А распавяданне пра Беластоцкі край і беларускае жыццё ў ім выслухоўваюць з разяўленымі ратамі; пакідаем колькі штук альманаха „Белавежа" і „Беларускага календара" (успомнілася, у „Паходні" мелі ціхі жаль, чаму так мала прывезлі мы іх).

Той прыкры інцыдэнт у Гродне давёў да мазгоў цалкам простую праўду: тутэйшыя палякі хочуць пачуць перш за ўсё польскіх пісьменнікаў. Было б тупасцю здзіўляцца або папракаць іх за гэта, ведаючы, што цэлыя іх пакаленні выраслі тут у адарванасці ад уласнай культуры — у эпоху сталінізму ды застою. Нам жа, у Беластоцкім краі, таксама большая ахвота да свайго. Чаму мець прэтэнзію — прыкладна — да пеўня за тое, што ён менавіта певень?..

У рэдакцыі раённай газеты „Уперад": трохі журналістаў, актывістаў і патрыятычная моладзь з суполкі „Рунь" (яна дабудзе да канца). Палякі пайшлі — натуральна — да палякаў, а

# ЗОРКА

## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ



*Сямікласніцы Аніта Дажынка, Ася Хурса, Крыся Валасовіч і Галінка Дажынка вучацца ў школе ў Орлі, а жывуць у Кашалях. Вельмі ж яны, як і ўсе вучні, чакаюць, калі можна будзе ўжо пераходзіць вучыцца ў новы прыгожы школьны будынак.* **Фота Я. Чэрнякевіч.**

**Марыя Філіповіч**




Цюпка з'явіўся ў іхнім доме ў самы разгар лета. Яго прывёз з суседняй вёскі Радаўкі Алесікаў бацька. Маленькі руды камячок, як толькі апынуўся ў незнаёмым пакоі сярод чужых людзей, усхвалявана закруціўся, заскакаў каля ног бацькі. Алесік кінуўся да шчанюка.

— Які ён маленькі, — разгублена прамовіў Алесік, разглядаючы шчанюка. — Няўжо з яго вырасце сапраўдны ваўкадаў?

— А навошта табе ваўкадаў? — усміхнуўся бацька. — У нас і так ваўкоў небагата...

Алесік сярдзіта маўчаў. Як бацька не можа зразумець, што вялікі, прыгожы і разумны сабака — гэта не які-небудзь там недарослы дварняк, якіх бегае па вёсцы не пералічыць колькі... Хлопчыку хацелася мець сабаку незвычайнага, такога, як ён бачыў у кіно пра пагранічнікаў.

— А я так думаю, — сказаў сур'ёзна бацька. — Галоўнае, каб ён быў табе сапраўдны сябар.

Шчанюк весела скакаў вакол хлопчыка, цяўкаў тоненькім галаском. „Ты паглядзі, — нібы гаварылі яго вочкі, — які я вясёлы, які забаўны... Як хутка бегаю, як умею ўжо брахаць, амаль як дарослы сабака..." І Алесіку пачало здавацца, што і сапраўды ва ўсім свеце не знойдзеш лепшага шчанюка. Каб і лапкі ў яго былі надзетыя ў белыя шкарпэткі, і белы гальштук на шыі, і чорненькі вільготны носік, і круглыя, як гузікі, разумныя вочкі... Яго сталі ласкава зваць Цюпка.

Алесік паказваў яму новы дом, павадзіў па пакоях, а Цюпка весела зіркаў па баках і радасна віляў хвосцікам. „Так, так... Усё мне тут падабаецца. Мы цудоўна зажывём з табою, Алесік".

Пахваліўся Алесік і сваімі цацкамі. На навенькі самазвал Цюпка толькі зірнуў, разбурыў домік з кубікаў... І раптам убачыў лахматае медзведзяня. Здзіўлена спыніўся перад ім, пакратаў лапкаю, панюхаў і сярдзіта завурчаў. Мішка сядзеў нерухома, па-сяброўску растапырыўшы лапы, нібы хочучы абняць. Тады Цюпка ўхапіў яго зубамі і як апантаны забегаў па пакоі. Алесік спярша глядзеў на яго, а пасля і сам пачаў бегаць і гучна рагатаць. Нарэшце Цюпка захакаўся, кінуў сваю здабычу на падлогу і сеў побач. Ён не зводзіў з медзведзяняці насцярожаных вачэй, некалькі разоў пагражальна вуркатнуў, упэўніўся, што той і не думае ўцякаць, расчаравана адвярнуўся, нібы гаворачы Алесіку: „Што там у цябе яшчэ цікавага? Паказвай..."

Ён з павагай абнюхаў новы Алесікаў партфель, ад якога прыемна пахла скураю... А вось „Буквар" яму не спадабаўся. Пакуль Алесік паказваў яму малюнкі і літары, Цюпка лёгкадумна круціўся ў яго на каленях і глядзеў больш у твар хлопчыку, чым у кніжку, нібы пытаўся: „Няўжо гэта і сапраўды так цікава? Давай лепш пабегаем..."

* * *

Уночы Алесіка разбудзіў чыйсьці плач. Тоненькі галасок, то заціхаў, то мацнеў, нехта жаласна ўсхліпваў як не над самым вухам у хлопчыка. Ён не адразу зразумеў, што гэта плача Цюпка.

Звечара Цюпка заснуў на посцілцы, якую яму кінулі ў куток за печкаю. Уражанні ад знаёмства з новым месцам і новымі сябрамі змарылі яго. Уначы ён прачнуўся і замест цёплага і пушыстага жывата маці, ад якога заўсёды прыемна пахла малаком, тыцнуўся носам у шурпатую цагляную сцяну. Ён пачаў спалохана кідацца ва ўсе бакі, але ўсюды натыкаўся на халодныя сцены.

Нарэшце Цюпка выкаціўся ў пакой, але тут на яго пагрозліва насунулася мноства незнаёмых рэчаў, і ён баязліва задам папоўз у свой куток. Ніколі яшчэ не адчуваў ён сябе такім адзінокім і няшчасным.

Калі да яго прысеў Алесік, Цюпка жаласна скавытаў, паклаўшы мордачку на пярэднія лапкі.

А ранкам, не знайшоўшы шчанюка на месцы, мама вельмі здзівілася. Калі ж яго не аказалася ні пад сталом, ні за шафаю, ні пад канапаю, яна ўстрывожылася. Не ведала, як і сказаць такую непрыемную навіну сыну.

А сын у гэты час сніў апошнія, самыя цікавыя сны, а пад коўдраю ў яго гэтак жа салодка спаў яго новы сябар.

## ДЛЯ САМЫХ МАЛЕНЬКІХ

## КАЛЫХАНКІ

* * *

**Люлі, люлі, люлі...**
**Дзеткі ўсе паснулі.**

**Не спіць толькі коця,**
**Ходзіць па балоце.**

**Адмарозіў лапку,**
**Пайшоў грэцца ў хатку.**

**Недзе коцю дзецца,**
**Лапачцы пагрэцца.**

**Палез на палаткі,**
**Спалохаўся бабкі.**

**Палез ён на вышкі,**
**Там гулялі мышкі.**

**Так яны дурэлі —**
**Хвост кату ад'елі.**

**Пайшоў каток у лясок,**
**Знайшоў белы паясок.**

**А котачка ўзяла**
**І дзіцяці аддала.**

**Пайшоў каток пад масток,**
**Злавіў рыбку на хвасток.**

**Ці самому з'есці,**
**Ці дадому несці?**

**Думаў, думаў, каток,**
**Укусіў адзін разок**

**І панёс дадому**
**Дзіцятку малому.**

* * *

**Люлі-люлі, люляшу,**
**Я дзіцятка калышу,**
**Нітачку звіваю,**
**Песеньку спяваю.**
**Што выведу нітку —**
**Камару на світку,**
**Астануцца кончыкі**
**Камару на штончыкі.**

* * *

**Баю, баінку, баю.**
**Не лажыся на краю.**

**Не лажыся на краёк,**
**Прыйдзе шэранькі ваўчок.**

**Прыйдзе шэранькі ваўчок,**
**Цябе схопіць за бачок.**

* * *

**Не хадзі, коцік,**
**Па лаўцы,**
**Будзем біці**
**Па лапцы!**
**Не хадзі, коцік,**
**Па скрыні,**
**Будзем біці**
**Па спіне!**
**Не хадзі, коцік,**
**Па масту,**
**Будзем біці**
**Па хвасту.**
**Не хадзі, коцік,**
**Па печы,**
**Будзем біці**
**У плечы!**
**Не хадзі, коцік,**
**На хаце,**
**Не будзі, коцік,**
**Дзіцяці!**
**Няхай кату**
**Усё ліха,**
**Наш сыночак**
**Спіць ціха!**

## Геаграфічнае асяроддзе

### ЧЭРНЯКОВА ГАРА

Тапаграфічнае апісанне маршрута да Чэрняковай гары. З Бельска-Падляшскага да Праневіч 5 км па шашы. За Праневічамі застаецца налева жвіраваная дарога да Арэхвічаў. Ад гэтага месца застаецца на поўнач 550 м. Вось і вельмі прыемная грунтовая палявая дарога — налева. Яна яшчэ не знішчана бязлітаснай рукой землеўпарадчыкаў. Цудам ацалела!

Прайшоўшы па гэтай грунтоўцы 225 метраў, бачым перад намі з правага боку вялізную






яму. Гэта месца, дзе калісьці красаваўся ўзгорак — Чэрнякова гара. Сёння можна пабачыць увачавідкі, у чым праяўляецца злачынная дзейнасць чалавека на геаграфічнае асяроддзе. У гэтай гары, ад якой засталася толькі яма, масава закладалі гнёзды ў стромкіх яе сценах ластаўкі-беражанкі. Графіка гэтай гары зроблена ў 1977 годзе. Тады там было шмат птушыных нор. А не кожны ўзгорак можа быць прыгодны для птушак. Чэрнякова гара складалася з пылаватага дробназярністага пяску жаўтаватага колеру. Такі пясок не абвальваўся.

Апрача таго, узгорак гэты быў пакрыты вельмі цікавай раслінасцю. Пераважна тут раслі гэтак званыя ксерафіты, гэта значыць, расліны, якія растуць у вельмі сухім асяроддзі, бо іх карэнні дасягаюць 5 м у глыбіню. Знішчаны не толькі норы ластавак, але знікла і гэтая раслінасць.

Хоць няма ўжо ўзгорка, варта паназіраць трагедыю ластавак. Яны ў выкапе, у яме, прабуюць будаваць норы. Пагляд́зіце і вы, бессардэчныя людзі, што раскапалі гэтую горку, як ластаўкі змагаюцца за жыццё! А ластаўкі ж жывуць і для нас для нашага дабра. Без іх хмары насякомых не далі б нам жыць! І не толькі нам. А што было б з нашай хатняй жывёлай? Камары і мухі заелі б іх.

Няхай памяць аб Чэрняковай гары застаецца хоць у гісторыі — на карце і ў графіцы. Нельга забываць аб трагедыі нашых пярнатых сяброў. Не вярнуць нам прыгажосці таго геаграфічнага асяроддзя!

Наведайце гэтую мясціну з развітальнымі мінорамі ветру, што нясе пясчынкі перад вамі. Песня яго сумная. Болей цябе, горка, ужо не будзе. Дно шырокага выкапу — гэта ўжо могільнік цудоўнай горкі.

**Барыслаў Рудкоўскін**
**Карта і графіка аўтара**

## Вучнёўская творчасць

### КАМАРЫ

За гарою, у бары,
Зазвінелі камары.
Пад іх песню пойдзеш ў скач,
Хоць ты смейся
Хоць ты плач.

Джаляць так з усіх бакоў,
Што прасочыцца нат кроў.
Адганяць няма іх рады:
Наляцяць усёй брыгадай.
А адгоніш аднаго —
Запячэ другі — ого!
Не трапляйце за гару
Вы на вочы камару.

**Аляксандр Чарнуха,**
вучань VI класа
Рагожнаўскай школы,
Гродзенскай вобласці

## Малюнкі школьнікаў



„Стары дуб“. Маляваў Грэсь Анішчук з Дубіноў

## Пазнаёмімся

* * *

Еля Краўчук і Агнешка Мачульская, вучаніцы 4 класа. вёска Грабавец 92 і 98, пошта 17-204 Дубічы-Царкоўныя, Беластоцкае ваяводства.

* * *

СССР, 150057, г. Ярославль, ул. Ньютона, д. 46, кв. 19. Глебовой Ольге. 7 клас.

* * *

БССР, 246000, г. Гомель, вул. Парыжскай Камуны, 2, кв. 54. Аленчык Маша. 2 клас.

* * *

СССР, 344113, г. Ростов-на-Дону, ул. Орбитальная, 44, кв. 69. Наташе. 3 клас.

* * *

СССР, 346523, Ростовская обл., г. Шахты, ул. Театральная, д. 35, кв. 28. Киселевой Лене. 6 клас. Хочуць перапісвацца таксама Леніны аднакласніцы (Никулина Евгения, Матюшина Ирина, Драч Олеся и Макаровская Света). Ёсць у іх і адзін знаёмы другакласнік, які таксама хоча перапісвацца з аднагодкам.

* * *

БССР, 220131, г. Мінск, вул. Мірашнічэнкі, д. 9, кв. 376. Лісоўская Аня. 13 год. Захапляецца сучаснай музыкай. добра вучыцца і вельмі прыгожа піша лісты па-беларуску.

* * *

БССР, 222320, Мінская вобл., Маладзечанскі раён, с. Краснае. вул. 1 Мая. дом 135. Доўбнева Люда. 4 клас.

* * *

БССР, 220047, г. Мінск-47, вул. Несцерава. 70, кв. 185. Райдзюк Оля. 10 год.

## Вершы Віктара Шведа

### НАВОШТА МНЕ АЛЕНІ?

Угледзеў на экране
Тэлевізійным Жэня,
Як хутка цягнуць сані
Паўночныя алені.

— Ёсць санкі, — кажа дзедка, —
Няма звяроў рагатых.
— Звяроў не трэба гэткіх,
Дык ёсць жа ў мяне тата!

### ЧУВАЦЬ ТЭЛЕВІЗАР

Адкрыў суседцы дзверы
Марудлівы хлапчына.
Адзін ён у кватэры,
Матуля ў магазіне.

— Што ў вас чуваць, суседзі? —
Пытае цётка Ліза.
Адказвае ёй Федзя:
— Вядома, тэлевізар.

### ГАДЗІННІК НА ГАЛІНЕ

У лес мястовы Ваня
Упершыню прыехаў.
Зязюлі кукаванне
Нясло далёка рэха.

— Паслухай, мама, ў лесе,
На дрэва верхавіне,
Нехта, відаць, павесіў
Насценны наш гадзіннік!

### АДЫХОДЗІЦЬ СТАРЫ ГОД

— Адыходзіць год стары,
Як ранейшыя, ізноў.
Запытаў малы Барыс:
— Колькі ж не меў той год гадоў?

— Дык адзін меў год, сынок,
Састарэўся без пары.
— Маю шосты ўжо гадок
І яшчэ ж я не стары!

### БАЦЬКІ НА ВЯСЕЛЛІ ЧАКАЮЦЬ НА ЭЛЮ

Аглядаюць здымкі
Бабка з унучкай Эляй.
Глянь, тут у альбомках
Бацькі на вяселлі.

Бярэ ў ручаняты
Здымачак малая.
— Вось тут мама з татам
На мяне чакаюць.

### ПАПУГАІ МІКАЛАЯ

Пытаюць хлопцы Мікалая:
— Скажы нам, дарагі браток,
Навошта двух ты папугаяў
У клетцы мучыш назнарок?

— Адзін гаворыць
па-французску,
Мой пашырае далягляд,
Другі з іх робіць беларускі
Мне неадкладна пераклад.

### ТАТА КУПІЦЬ МНЕ БРАТА

— Будзь, сыночак,
паслухмяны, —
Тата адазваўся ў хаце, —
А за гэта нечакана
Будзе ўзнагарода: бранік.

Запытаў матулю Славік:
— Ці сказаў табе ўжо тата,
Што я буду неўзабаве
Мець малюсенькага брата?

### А·Д·Г·А·Д·А·Н·К·А




Запішыце лічбы ад 1 да 9 ў кружкі так, каб сума лікаў на кожным баку раўнялася 20.


Адрас рэдакцыі: 15-950 Białystok, ul Wesołowskiego 1 „Зорка“

## КРЫЖАВАНКА

**Упоперак:** 1) перад табой, з клетачкамі, 9) спаборніцтва коней, 10) лекарсамавучка, 11) сталіца Грузіі, 12) носіш яе штодзённа, 14) жывуць на захад ад палякаў, 15) гультай, 17) з маразамі і снегам, 19) агмень, сімвал роднага дома, 20) дэкаратыўны куст з пахучымі кветкамі, 22) шарсцяны дыван ручной работы, 24) у маторы ахаладжвае, у кватэры абагравае, 27) замінка ў гаворцы, 28) наёмны работнік, парабак, 29) жывуць на Таймыры і Ямале, 30) імя аўтаркі „Люблю наш край".

**Уніз:** 2) вершаваная форма, якая стварае архітэктанічнае кальцо — у беларускай паэзіі напісаў толькі М. Багдановіч, 3) насельніца, 4) псіхічна хворы чалавек, 5) сыравіна на бензін і газу, 6) смачная катлета, 7) выказванне, якое надакучыла, 8) ахоўнік грамадскага парадку, 12) вялікае хрысціянскае свята вясной, 13) яе доіць таксама, 16) схільны да летуценняў, 18) выкананне сцэнічнай ролі, 21) прыносіць вестку, 23) сярэдзіна лета, 24) літаратурны твор, як імя, 25) першае выступленне, 26) земляроб. **„ядань"**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны дзве кніжныя ўзнагароды.

**Адказы на крыж... змешчаную ў № 16.**

**Упоперак:** кусок, адведкі, аўсюк, парог, лір, воблака, абман, Данбас, Канада, попыт, адплата, рух, торба, мысль, пелетон, крыга.

**Уніз:** краявід, скарб, коска, адклад, выправа, ілгун, рамка, лоб, напор, антракт, Ніл, абарона, лахман, пятоп, пясок, Альпы.

Кніжныя ўзнагароды выйгралі: Сяргей Жандараў з Гомеля і А... Урбановіч з Ліды.








*— Калі навучуся пісаць — дапоўню надпіс...*

## ПАЎТОРНАСЦЬ НЕПАЎТОРНАГА

531

Вялікая задаволенасць пісьменніка **напісаным** часта прадвяшчае малую задаволенасць чытача **прачытаным.**

532

З беларусаў, як з цеста, вельмі лёгка ляпіць баранчыкі і паяцыкі, выключна смачныя для паднябенняў суседзяў.

533

Каханне — салодкая пастка.

534

Усведамленне ўласных глупстваў даецца **толькі** чалавеку разумнаму.

535

Найбольшая кара для гаварлівага — маўчаць, а для маўклівага — гаварыць.

536

Калі ты перамог, праяўляй крыху скептыцызму, калі цябе перамаглі, захавай крыху аптымізму.

537

Карыснейшы той, хто ганіць твой добры верш, чым той, хто хваліць верш дрэнны.

538

Людзі малога фармату любяць медалі вялікага фармату.

539

І сярод баронаў трапляюцца бараны.

540

Нам толькі здаецца, што мы ходзім у розныя бакі. У сапраўднасці ўсе ідзем у бок могілак.

541

Памятайма аб тым, што мы не толькі паны зямлі, але і яе слугі.

**Алесь Барскі**

## МАЛЫШОЎ БОЛЬШ КАЛЫХАЦЬ НЕ БУДУ

Неспадзявана ўгледзела Агата,
Седзячы пры тэлевізары з бацькамі,
Як моцна прытулілася да таты,
Яго пацалавала раптам мама.

— Не прытуляйцеся больш да сябе, — сказала. —
І не цалуйцеся нахабна так усюды.
Я Петруся малога калыхала
І малышоў больш калыхаць не буду.

**Віктар Швед**

*

Бацька тлумачыць сыну, як хутка бегае заяц, які імклівы палёт курапаткі, які абвостраны слых у казулі...

— Цяпер мне зразумела, — кажа малы, — чаму ты, тата, вяртаешся з палявання з пустымі рукамі...

*

— Чаму твой маленькі брат увесь час плача?

— Калі б ты не меў зубоў, быў лысы, не ўмеў бы ні хадзіць, ні гаварыць, таксама б плакаў.

*

Настаўнік пытае:

— Дзеці, як называюцца істоты, якія жывуць і ў моры і на сушы?

— Маракі! — чуецца ў адказ.

*

— Пятрусь, не цягні ката за хвост, — кажа бацька.

— Я не цягну... Я толькі трымаю за хвост, а ён сам цягне, — апраўдваецца Пеця.

## СПЯВАЕМ БЕЛАРУСКІЯ ПЕСНІ

### ЗАЙДЗІ, МЕСЯЦ, ЗАЙДЗІ, ЯСНЫ

**(народная)**

Зайдзі, месяц, зайдзі, ясны,
За цёмную хмару,
А я сваю міленькую
Трошкі пакахаю.

Зайдзі, месяц, зайдзі, ясны,
За хмару другую,
А я сваю міленькую
Хоць раз пацалую.

Не даюць мне бацька й маці
Цябе бедну браці,
Адпраўляюць на Украіну
Багату шукаці.

— Ты паедзеш на Украіну,
А я тут жа памру.
— Ты прыедзеш з Украіны
Ды мне зробіш труну.

З Украіны я вярнуўся —
Усе званы звоняць.
А ўжо маю міленькую
Ля царквы хароняць.

Зайдзі, месяц, зайдзі, ясны,
За хмару другую,
Адыйдзіце ж, добры людзі,
Хоць раз пацалую.






— У яго ўжо вылазяць зубы!

— Гэта ў спадчыне па дзеду, у яго таксама вылазяць!



— Калі пачынаем гуляць у мужа і жонку, зараз жа гаворыш, што ты цяжарная!

Ганула разбіла шыбіну ў акне. Калі ў пакой увайшоў разгневаны бацька, перапалоханая дзяўчынка сказала:

— Татка, не бі мяне! Вылічы мне гэта з пасагу!

*

Настаўнік пытаецца ў вучня:

— Колькі год твайму дзеду?

— Гэтага, на жаль, не ведаю, але ён у нас ужо даўно.




Жанчыны нясуць свой крыж у сетках.